Цана асобнага нумару 2000 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 24.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 6000 мк., сярод тэксту 5000 м. і на 4 стр. 4000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 24 — Нядзеля, 12-га жніўня 1923 г. — Год I.

## Аб граніцах Радавай Беларусі.

Камуністы, збудаваўшы на руінах Расейскай Імпэрыі першы ў сьвеце Саюз Соцыялыстычных Радавых Рэспублік, выявілі ў сваёй рабоце адну характэрную і бязумоўна вельмі карысную для свае справы якасьць—гэта не заплюшчаваць вачэй на свае абмылкі, а зараз напраўляць іх, хоць-бы й ламаючы ўвесь ранейшы плян.

Гісторыя скажаць, што гэтая іхняя якасьць, разам з другімі асаблівасьцямі іхняга камуністычнага будаўніцтва, няраз мела надта важную ролю ў крытычныя мамэнты камуністычнае ўлады і заўсёды давала ёй памысныя рэзультаты.

На мове буржуазных газэт гэтая асаблівасьць звычайна называецца „крахам“ камуністычнае ідэі і давала повад расейскім эмігрантам цешыцца бясплоднымі надзеямі на хуткі канец радавай улады.

Між іншым былі зроблены камуністамі абмылкі, вольныя і нявольныя, і ў справе граніц Радавай Беларусі.

Яшчэ і цяпер Радавая Беларусь абнімае толькі часьць б. Менскай губэрні, а Віцебская, Смаленская, Магілёўская і Чарнігаўская губэрні, выключна ці часткова беларускія, знаходзяцца ў складзе Расейскай (Маскоўскай) Радавай Рэспублікі.

Чаму так здарылася? Магчыма, што і не адны абмылкі адбілі тут сваё значэньне, але і пэўныя палітычныя вымогі ў змаганьні радавае ўлады з сваімі ворагамі, варожымі элемэнтамі унутры краю.

Але бязумоўна былі тут і абмылкі праз незнаёмства з боку пэўных камуністычных працаўнікоў з беларускаю культураю і беларускім адраджэнскім рухам праз лёгкаважаньне імі гэтых фактаў пры нацыянальным пытаньні ў камуністычнай практыцы. Слабасьць лічэбная і якасьцевая тых беларускіх камуністаў, якія ўжо на пачатку рэвалюцыі былі на Беларусі ці маглі зараз стаць бліжэй да яе спраў, наплыў у Беларусь, дзякуючы вайне, камуністаў, нічым ня зьвязаных з краем ці слабых яшчэ для такой нязвычайнай дзеяльнасьці, якая выпала на іх долю, сьвежых у партыі, меўшых яшчэ налёт русыфікатарскага і рэакцыйнага ўзгадаваньня ў пэўных пытаньнях,—усё гэта перашкодзіла памененым чыста беларускім этнографічна і эканамічна прасторам адразу ўвайсьці ў склад Радавае Беларусі.

Ня будзем закрываць вочы і на тое, што пры гэтым „самавызначэньні“, якое можна было тады яшчэ так ці йначай, можа паставіць на праўны грунт, прынамсі апраўдаць яго вымогамі змаганьня за камуністычную ідэю з пункту гледжаньня маскоўскага цэнтру,—пры гэтым, аднак, некаторымі малакультурнымі мясцовымі працаўнікамі (у Віцебску, Магілёве і інш.) было праяўлена лішняе „усердие“ якое выявілася ў дзікіх нападках на беларускую культуру, асабліва мову, нават у прэсе. Дзіка было тады чытаць у сталіцах буржуазнае Эўропы выразкі з гэтай дамарошчанай „камуністычнай“ публіцыстыкі беларускіх-жа рэнэгатаў ці наеджджых і краёвых культуртрэгэраў з адкукацыяй царкоўна-прыхадскіх школаў і хэдэраў, бо мімаволі паўставала поўная аналёгія з публіцыстыкай абрусіцеляў з часоў царскага рэжыму, ня гледзячы, на ўсю розьніцу іх ісходных пунктаў гледжаньня.

Але восьна увагу з усьпехаў чырвонае арміі стала ўжо можна камуністычным правадыром больш перанесьці на ўнутраныя справы. Тымчасам адбылася і пэўная перагрупіроўка камуністычных сілаў на Беларусі. Беларускае пытаньне стала больш знаёмым, як камуністычнай партыі, так і палітыкам Антанты.

Палітыкі Р.С.Ф.С.Р. і палітыкі паўстаўшай з мёртвых Польшчы далі бой за свае ўплывы на творчыя беларускія сілы.

Першыя пашлі адным шляхам, другія другім...

Першыя за кароткі час збудавалі сур'ёзны культурны асяродак беларусаў у Менску, адчынілі Беларускі Унівэрсытэт, Інстытут Беларускай культуры (пачатак Беларускае Акадэмі Навук), Дзяржаўны Беларускі Тэатр, Музэй і Бібліятэку з рэдкімі памяткамі беларускага творчага духу, масу сярэдніх школаў і тысячы пачатковых школаў з беларускай выкладовай мовай, выдаюць вялікія штодзенныя газэты на беларускай мове, месячнікі і т. д.

Другія зрабілі тое, што цяпер ў ваднэй Гомельшчыне, якая ўваходзіць яшчэ ў склад Расейскае, а не Беларускае Раднае Рэспублікі больш пачаткавых школаў, чымся на ўсіх беларускіх прасторах пад Польшчаю...

Урэшце—зусім нядаўная амнэстыя ў Радавай Беларусі, адчыніўшая дарогу беларускім працаўнікам да культурнай працы на радавым грунце.

І толькі адно пытаньне астаецца чародным для ажыцяўленьня яго ў гэтым процэсе зразумленьня і камуністычнага наладжваньня беларускай справы,—гэта пытаньне аб усходніх граніцах Радавай Беларусі. Як даносяць газэты, пасьля новага перабудаваньня, адносіны між Рэспублікамі, ўходзячымі ў склад Радавага Саюзу, і яно зусім блізка к таму, што ўся Усходняя Беларусь сальецца ў адно суцэльнае палітычнае, культурнае і эканамічнае цела. Пры гэтым у працэсе стварэньня гэтага цела павінны прыймацца пад увагу этнографічныя падставы беларускага народу. Чым хутчэй гэтак станецца, тым лепш для Беларускага Адраджэньня.

А можа тады й польскія палітыкі навучацца ад тых, каго яны пагардліва называюць „усходняй дзіччу“, паправяць свае абмылкі.

Прынамсі галоўны закід будзе вырваны з рук польскіх панскіх палітыкаў і іх беларускіх паслугачых.

Ад устанаўленьня меж Усходняй Беларусі шмат залежаць і межы аўтаномнай (у проекце) Заходняй Беларусі, бо не пасьмеюць тады, як цяпер, вытыкаць нам; „Радавая Беларусь, а толькі 7 паветаў“.

**С.**

## Аб палітычнай тэрміналёгіі.

Ня гледзячы на „беларушчаньне“ Усходняе Беларусі, ў беларускай палітычнай тэрміналёгіі мы ўсё яшчэ сустракаемся з зусім чужымі нам словамі. Датычыць гэта, паміж іншым, і такое важнае справы, як самы назоў Усходняе Беларусі: „Савецкая“ Рэспубліка.

Вось-жа, расейскаму слову „савет“, „савецкі“ ў беларускай мове, таксама, як і ў украінскай, адпавядае слова „рада“, „радавы“ (—„радянськи“ паўкраінску). Дзеля гэтага ўсходнія беларусы і павінны называць сваю Рэспубліку „Радавай“, а замест назову „Саюз Соцыялістычных **Савецкіх** Рэспублік“ ужываць назоў „Саюз Соцыялістычных **Радавых** Рэспублік“, або ініцыяламі „С.С.Р.Р.“.

Мы такую тэрміналёгію ўводзім у „Нашым Сьцягу“ з гэтага нумару.

## Крытычны агляд

### закону аб забесьпячэньні беспрацоўных.

Соймавая камісія апекі працы на пасяджэньні ад 24.VII. г. г. прыняла закон аб забесьпячэньні на выпадак безработьця.

Галоўныя рысы закону гэткія: забеспячэньню падлягаюць усе працаўнікі з 16-ць гадовага ўзросту ў прадпрыемствах прамысловых, прыватных, дзяржаўных і самаупраўленьнях.

Міністар апекі мае права ў працягу 3-х першых гадоў з моманту абвяшчэньня гэнага закону, звольніць ад гэтага абавязку прадпрыемствы, якія займаюць да 5-цёх працаўнікоў.

Правам дапамогі карыстаюцца і так званыя паўбеспрацоўныя, а іменна тыя, тыднёвы заробак каторых ня вышэй, чымся ўмоўлены, поўны, двухднеўны заробак.

Капітал забесьпячэньня павінен складацца так, каб быў роўны 3,5% заробкаў працаўнікоў. Пры гэтым працуючыя ўзносяць 0,5%, прадпрыемца 1,5% і Дзяржаўны Скарб 1,5%.

Рада міністраў мае права 0,5% з тае сумы, якая прыпадае на Дзяржаўны Скарб, перакласьць на гмінныя самаўправы.

У часы безработьця беспрацоўныя будуць адтрымліваць дапамогу — адзінокі—30% заробку, а сямейныя ад 40 да 60%, гэта ў залежнасьці ад колькасьці членаў сям'і.

Закон накладае штраф ад 100.000 да мільёна мар. на тых працаўнікоў, якія ў працягу трох дзён не паведамяць пасрэдніцкія ўстановы аб кожным вольным, або ўжо занятым месцы.

Таксама ўносіць штраф і гаспадар прадпрыемства ў колькасьці ад 100.000 да 10 мільёнаў мар., калі ўхіліцца ад падачы ведамасьці аб работніках, якія падпадаюць пад закон аб абавязковым забесьпячэньні, або ўхіляюцца ад законных ўзносаў.

Ня маюць права на забесьпячэньне паводлуг закону ў гэткіх выпадках:

а) калі адтрымліваюць дапамогу як хворыя, з адпаведных устаноў. А роўным чынам і па вычарпаньні дапамогі, якая прадугледжана законам, а здароўе настолькі не палепшала, каб працаўнік мог узяцца за работу.

b) у выпадку інвалідцтва.

c) у выпадку забастоўкі.

d) у тых выпадках, калі не выпаўняюцца абавязковыя законы, чым падаецца повад для выключэньня са сьпіску працуючых у прадпрыемстве.

e) працаўнікі, якія знаходзяць другія даходы ад працы, каторую выпаўняюць у час безработьця, адтрымліваюць меншую дапамогу чымся тая, якая прадугледжана законам.

Пільна ўглядаючыся ў новы закон аб забесьпячэньні беспрацоўных мы знаходзім у ім шмат вялікіх прарэхаў, якія мусіць забылі залатаць „умяркованыя“ польскія соцыялісты.

Так, у стацьці 4-й разьдзелу I-га, дзе гаворыцца аб нямаючых права на забесьпячэньне, мы знаходзім гэткую гвалтоўную пастанову. Хворыя, якія па палажэньню свайго здароўя ня могуць у назначаны тэрмін прыступіць да працы, пазбаўляюцца дапамогі ад усіх устаноў.

Значыць, калі працаўнік захварэў на сухоты, ці на якую другую хваробу, маючую зацяжны характар, яго адкідаюць ад усіх устаноў дапамогі. Ніадкуль няма яму помачы. І хвароба ад голаду

холаду, без патрэбнага лячэньня пераходзіць у хронічную, калі саўсім ня зводзіць няшчаснага, пакінутага чалавека ў магілу.

Такім чынам працоўнік з хворага пераходзіць у лягер інвалідаў. Што-ж тутака яго чакае? Мо' закон інвалідам дапамагае, мо ён прадугледзіў і гэткае палажэньне, як інваліцтва працаўнікоў? Але-ж, ён прадугледзіў, ды толькі з таго боку, што ў тэй-жа стацьці (§ б) інваліды выключаны з чысла, адтрымліваючых дапамогу. Захварэў, дык памірай, а не памёр у свой час, ідзі на вуліцу жабраваць; стаяць з працягнутай рукой дазваляецца, чаго-ж больш трэба. Гэта буржуазная гуманнасьць, гэта хрысьціянства Хрысьціянскага Ураду!

Паглядзім далей. На выпадак забастоўкі (§ с) закон не дапамагае бастуючым, сарамліва захоўваючы нэйтралітэт, карысны, канешна, для фабрыкантаў.

Пэўна-ж, будзь гэта соцыялістычны ўрад, ён бяз жадных разважаньняў стаў-бы на бок працоўных і па меры магчымасьці дапамагаў бастуючаму працоўнаму народу ў яго змаганьні з клясай капіталістаў.

Але-ж нам вядома, што Хіенскі Урад у часы апошніх забастовак у Польшчы мы знаем, як дапамагаў працуючым. Былі забіты і ранены працоўныя людзі, шукаўшыя выхаду з галоднага палажэньня шляхам забастоўкі.

А калі яшчэ Галоўная Управа (ст. 15) складаецца так, што на 6 працаўнікоў выпадае 9 непрацоўных галасоў, дык саўсім зразумелым стане, што закон гэты мала карысьці прынясе для беспрацоўных. Сыты галоднаму не спагадае. Гэта ёсьць скарынка, якую сілай вырвалі працоўныя з рук разжырэўшага багацея. Але скарынка ня дасьць сытасьці, яна толькі паламае зубы.

Калі закон гэты ня можа задаволіць беспрацоўных гораду, дык вёску ён, як кажуць, жыўцом зьядае.

У стацьці 5, разьдзелу II-га чытаем, што Рада Міністраў мае права 0,5% сумы ўзносу ў агульную касу дапамогі беспрацоўным перакласьць на валасныя самаупраўленьні. А ў разьдзеле І-м ст. І-я чытаем, што Міністар працы упаўнаважаны новым законам у працягу першых трох гадоў з моманту апавяшчэньня гэнага закону не даваць дапамогі і не рабіць абавязковым забесьпячэньне на выпадак безрабоцьця тым працаўнікам, якіх налічваецца да 5-цёх ў адным прадпрыемстве.

Дык з гэтага мы бачым, што на валасныя самаупраўленьні перакладаецца 0,5% усяго Дзяржаўнага ўкладу у касу беспрацоўных, а з другога—вясковыя парабкі, якіх часьцей усяго налічваецца ня больш 5-цёх у сярэдніх кулацкіх гаспадарках,—выкідаюцца з касы забесьпячэньня на вуліцу ў працягу цэлых трох гадоў. Нездарма-ж рука Пяста і яго галавы Вітоса прыкладзена да гэнага несправядлівага закону.

Зямельныя кулакі забраніравалі сябе гэтым законам ад узносу падатку на забесьпячэньне сваіх парабкоў ажно на тры гады. А вёска, безьзямельныя сыны якой—батракі—выкінутыя з касы забесьпячэньня, мусіць плаціць 0,5% у гэную касу.

Праўда і тое, што гэтым § аб 5-цёх працаўнікох адным росчаркам пяра выкінута з касы забесьпячэньня і ўся мястовая дамавая прыслуга. Але-ж кулакі памагаюць спэкулянтам, а рука руку мые, і абедзьве чыстыя.

Так новы закон ашукаў і сялян і работнікаў. Мы ўжо ня кажам, што новы закон ні слова не гаворыць аб забесьпячэньні на старасьць. Ні словам не ўспамінае аб забесьпячэньні бязьзямельных і малазямельных сялян, хаця-бы на старасьць. Хто-ж у польскай дзяржаве дбае аб сялянах!

Яшчэ перад вялікай вайной буржуазная Францыя прыняла закон, па якому ўсе старыя, дажыўшыя да 60-ць гадоў, адтрымліваюць дзяржаўную пэнсію.

Трэба было-б, каб Польшча лепш вучылася ад Францыі выдаваць падобныя законы. Але яна, нажаль, вучыцца ад гэтае дзяржавы толькі ашаламу мілітарызму. Пераймае спосабы ўзбраеньня, марнуе мільярды на розныя флёты, а грамадзяне гаспадарства жывуць, як гарох пры дарозе, ня маючы ніякае пэўнасьці ў заўтрашнім дні.

**Красавік.**

# Аб зямельнай „рэформе“.

У „Monitorze Polskim“ абвешчана, што за два 1922 і 23 гады аддадзена пад парцэляцыю 350 панскіх двароў. Лік не малы, але калі прыглядзецца, дык бачым, што гэтыя нібы распарцэляваныя двары займаюць абшар усяго 11.264 гэк. што ў сярэднім будзе ня больш як 32 гэк. (гэкт.=9/10 десяц.).

Тут трэба заўважыць што „Główny Urząd Ziemski“ хоча зрабіць так, каб воўк быў сыты і каза цэлая—парцэлюецца ня ўвесь панскі двор, а толькі тыя шматкі зямлі, якія ня маюць ніякай вартасьці для ўласьніка і якія пры кожным зямельным абрубе можна найсьці і адрэзаць бяз шкоды для гаспадара.

А якая карысьць для сялян, якім назначаецца гэты няўжытак?

Як гэты дробны няўжытак падзяліць паміж такім вялікім лікам малазямельных і бязьзямельных?

Але і гэтыя шматкі няўжыткаў дастануцца багацеям і паўпанкам, прадстаўнікі якіх арудуюць цяпер у ўрадзе і якім зусім добра папоўняць іхнюю гаспадарку гэтыя кусочкі балот ці пяску.

Той жа самы „G. U. Z.“ трымаецца іншай тактыкі на „крэсах“. Тут бываюць выпадкі, што парцэлюецца ўвесь двор, але зямля ні ў якім выпадку ня можа дастацца мясцоваму селяніну, а надзяляецца асаднікам. Чым-жа гэта тлумачыць нарушэньне нават абшарніцкіх інтарэсаў? Рэч ясная, справа ідзе аб тым, каб непаслушныя і населеныя непалякамі „крэсы“ акелзаць у вайсковыя асадніцкія лапы і сполёнізаваць. Пасьля-ж на выпадак вайны з суседзямі, а ў Польшчы мала прыяцеляў-суседзяў, асаднікі будуць служыць першай абаронай, бо на „крэсы“ нечага вельмі пакладацца.

Вось як выглядае парцэляцыя панскіх двароў у „Macierzy“ і на „крэсах“:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ваявод. Варш. дв. Увеліны Шляхэцке | расп. | 0.02 | гэк. |
| „ „ „ Домбровец | „ | 0.07 | „ |
| „ Лодзінскае, Бялкув | „ | 0.05 | „ |
| „ Люблінскае, Нецеплін | „ | 0.56 | „ |
| „ Келецкае, Маслов | „ | 0.46 | „ |

Беларускія землі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| „ Беласт. Аўгуст. пав. дв. Нэтта | расп. | 617.54 | „ |
| „ Вілен. Ашмянскі „ „ Нароты | „ | 109.25 | „ |

Украін. землі.

„ Станіславоўск. дв. Туша Велька расп. 307.58 гэк. і так далей.

Што гэтая зямельная рэформа нічога не даець беларускаму селяніну, гэта відаць з вышэйсказанага і балюча адчуваецца ў самым жыцьці.

Гібельна яна і для польскай дзяржаўнасьці. Аднімаючы панскія двары, польскі ўрад варожа настроівае супраць сябе ўсіх мясцовых абшарнікаў, якіх зусім ня цікавяць дзяржаўныя інтарэсы. Яны, напрыклад, прадаюць зямлю і лясы толькі за даляры ці за золата зусім не прызнаючы польскай маркі.

Маючы няпрыхільнікаў у асобе абшарнікаў ўрад ніяк ня можа абаперціся і на сялянскія масы, бо яны апрача абяцанак, і каб не сказаць чаго не цэнзурнага, нічога больш не адтрымалі.

Астаюцца ашчасьліўленыя надзеламі асаднікі, цэлыя армія асаднікаў, якія найчасьцей ня маюць найменшага зразуменьня, як хадзіць каля зямлі, бадай бяз малага ўсе п'яніцы, разбэшчанае ў час вайны жаўнерства, трымаюцца недаступна і з пагардай да мясцовага насяленьня, якіх гэтае-ж мясцовае насяленьне ненавідзіць і шкодзіць ім на кожным кроку. Сярод украінскага насяленьня да асаднікаў ненавісьць даходзіць да азьвярэньня, украінцы выразаюць асаднікам дзетародныя часьці, каб тыя не давалі патомкаў, не залюднялі іхнія землі, як гэта было ў Сьвінюхаўскай воласьці, Гарохаўскім павеце. Асаднікі ня могуць спакойна зажыць, гаспадарка іх марнатравіцца, зямля пустуе і асаднікі ўцякаюць з „крэсаў“.

Так што з зямельнай рэформы ў нас на „крэсах“ вышла ні богу сьвечка ні чорту качарга.

Але для бязьзямельных і малазямельных ад гэтага не лягчэй. Каму па каму, а ім два камы. Яны павінны на месцы і праз сваіх паслоў рашуча дамагацца зямлі, без якой ім няма жыцьця, як рыбіне без вады. Вялікая эканамічная разруха гразіць гібеляй для працоўных. Дык у імя свайго бытаваньня рабачаі зямлі павінны дружна заявіць хьена-пястам, заявіць і дабіцца таго, што зямля павінна перайсьці таму, хто на ёй працуе.

**Р. Юргілевіч.**

# Беларус Ладноу і паляк Обст.

Свой свайго не пазнау.
На злодзеі шапка гарыць.
Прыказкі.

Газэта на польскай мове „Dziennik Wileński“, у якой перад вядзе публіцыст п. **Ян Обст**, не мянуе нас інакш як бальшавіцка-нямецкімі паслугачамі, маскалямі ў беларускай скурцы дый наогул цкуе беларусаў сабакамі.

І тая-ж самая газэта „Dziennik Wileński“ надта хваліць і ўсім радзіць чытаць кнігу **беларуса** п. Аўгена Ладновага *), ў якой шмат ёсьць ласкі да палякоў, а яшчэ больш сьляпое злосьці да немцаў і жыдоў.

Але мусіць рэдактар „Dziennika Wileńskiego“ сам добра ня ўчытаўся ў ляманты п. Ладновага. От, пералістаў кнігу збольшага, ўсьцешыўся, што знайшоў там досыць родненькіх' кавалкаў, дый схапіўся падхваліваць. Або спадзяваўся можа, што засьляплёныя патрыятычным шалам чытачы ня зьвернуць належнае ўвагі на 344-ю і іншыя старонкі гэтае кнігі.

Дык вось-жа на гэтай старонцы пад тытулам „На якіяне крыві польскай (зваротак да беларусаў і ўкраінцаў)“—п. Ладноў піша:

> „На Беларусі і Ўкраіне шырока вядзецца пропаганда—зрабіць паляком **Уманьскую рэзь**, па прыкладу Гонты-Жалезьняка.
>
> За што?
>
> Беларусы адказваюць: зачыняюць нашы школы, перасьледуюць за веру, праганяюць са службы на зялезных дарогах, улада зьдзекуецца над намі, царквою, духавенствам.
>
> Гэта—праўда!
>
> Пабачым, хто гэта робіць?“

Дальш п. Ладноў пералічае розных асоб з нямецкімі празваньнямі, якія займаюць розныя пасады ў Польшчы і нібы-то наўмысна крыўдзяць беларусаў і ўкраінцаў, росьцяць у іх нездаваленьне польскімі парадкамі, каб гэткім спосабам хутчэй разбурыць Польшчу. І ў ліку тых асоб—п. Ладноў ставіць і п. Обста:

„У газэтах цкуе беларусаў—Іоган фэн-Обст“.

Што-ж гэта мае значыць? Нам-то ўсё роўна, ці нас цкуе запраўдны польскі шляхтун ці фарбованы з нямецкага „фона“. Але ці на п. Обсту запраўды шапка гарыць, і ён сваім пастаянным цкаваньнем беларусаў стараецца захаваць сваю „нямецка-агенцкую“ работу пад скурку польскага шовіністага? Ці мы дрэнныя, з пункту гледжаньня „Dziennika Wileńskiego“, толькі за тое, што пішам аб Польшчы праўду, а п. Ладноў добры, бо ня бачыць ніякага грэху на польскіх панох, спэкулянтах і яшчэ лепшых, чым п. Обст, публіцыстых з чыста польскімі празваньнямі? Ці можа прост п. Ладноў аб п. Обсту памыліўся—па прыказцы: „свой свайго не пазнаў“?

**Вілянчук.**

*) Евгеній Ладновъ. „Огнемъ и мечемъ, голодомъ и болѣзнями“, Варшава, 1922 г.

# Палітычныя падзеі.

## Сусьветнае значэньне нямецкага крызысу.

Крызыс, які перажывае Нямеччына ў сувязі з француска-бэльгійскай окупацыяй Рура, дайшоў нячуванае, бяспрыкладнае ў гісторыі меры. Страшэнны ўпадак цэннасьці нямецкае маркі, за якую даюць ужо пяць польскіх фэнігаў, нябывалая дарагоўля, ўсё ўзрастаючае безрабоцьце. агульны эканамічны хаос, а сьледам за ім і хаос палітычны, пагражаючы з дня на дзень крывавым палітычным пераваротам,—вось вынікі француска-бэльгійскае максымалістычнае палітыкі адносна да Нямеччыны.

Англія даўно прадугледзіла гэта, і вось тая прычына, якая выклікала і сяньня выклікае нязгоду сярод дзяржаў Антанты. І зусім натуральна: бо крызыс Нямеччыны—гэта ў значнай меры так-жа і крызыс агульна-эўропэйскі, нават крызыс сусьветны.

Аб тым, што катастрафальны ўпадак польскае маркі знаходзіцца ў цеснай сувязі з упадкам цэннасьці нямецкае валюты, нам даводзіць ня прыходзіцца: гэта-ж офіцыяльна было заяўлена ў сойме галавой польскага ўраду і міністрам фінансаў. Але нямецкі крызыс балюча б'ець ня толькі саюзьніцу выклікаўшае яго Францыі, ня толькі сумежную з Нямеччынай Польшчу, але і Англію, і Грэцыю, і заакіянскія краіны.

Дый гэта зусім зразумела: ў прамыслова-гандлёвым жыцьці ніводнае з сучасных гаспадарстваў не зьяўляецца нейкай абасобленай адзінкай, а наадварот усе яны зьвязаны супольнасьцяй інтарэсаў. Як наказавае ПАТ з Лёндану, ўжо сёньня відаць, як блага адбіваецца нямецкі крызыс на разьвіцьці тарговых адносін паміж Лівэрпулем, Калькутай і Вальпарайзо. Рэспубліка Чылі ня мае магчымасьці дастаўляць у Нямеччыну, як было даўней, нітрату, што падрывае вельмі паважна гандаль і прамысловасьць, як гэтага гаспадарства, так і другіх. Індыя ўтраціла свой аграмадны рынак збыту рысу, джуту, насеньня, скур і т. д., якія вывозіла раней у Цэнтральную Эўропу. Індыя бяднее, ня мае магчымасьці рабіць закупы патрэбных тавараў, каторыя раней купляла ў Англіі,—вось, фабрыкі і ткальні ў Ланкашыры і стаяць бяз дзела, бо нямашака на каго рабіць...

Вельмі ярка адбіўся нямецкі крызыс так-жа на Грэцыі. Там, як і ў Польшчы, цана грошай страшэнна ўпала, дарагоўля дайшла нябывалае меры, купцы былі прымушаны адмовіцца ад сваіх заказаў заграніцай, а ўзбураны і галодны народ у Афінах і Саланіках выступіў на вуліцу і пачаў граміць біржу і аружна бароцца з высланым проці яго войскам...

Окупацыя Рура—гэта затрыманьне часткі сусьветнае гаспадарчае машыны,—кажуць, паводле ПАТ'у, англічане.

І гэта, як паказуюць прыведзеныя факты, бязспорная праўда.

**Аль...**

## ПОЛЬШЧА.

Ходзяць чуткі, што ў хуткім часе маюць быць частковыя перамены ў складзе ўраду, а перадусім у міністэрствах фінансаў і публічных работаў.

---

Эканамічны Камітэт Рады Міністраў пастанавіў павялічыць паштовыя і тэлефонныя тарыфы на 100%.

---

Забастоўка будаўляных работнікаў і драўлянай прамысловасьці трывае ўжо два тыдні. Урад ня робіць ніякага нацiску на прамыслоўцаў, каб пашлі насустрэчу слушным дамаганьням бастуючых работнікаў.

---

Сэнатар Гамэрлінг выехаў да Амэрыкі. Агентства „Varsovia“ паведамляе, што паездка Гамэрлінга мае на мэце пазычку ў Злучаных Штатах.

---

Курс польскага залатога устаноўлены ў 35.000 м. п.

## НЯМЕЧЧЫНА.

У розных мясцох Нямеччыны з прычыны дарагоўлі паўстаюць забурэньні. У Гамбургу работнікі і безработныя напалі на ратушу, каб забраць гарадзкую касу, пры гэтым дайшло да бойкі з паліцыяй. Таксама мелі месца забурэньні ў Дрэздэне. У Хемніцы і Цьвікау работнікі змусілі гандляроў прадаваць тавары па нізкіх цэнах. Вялізарныя склады фірмы Блюм у Гамбургу зачынены.

---

Цэны ў Нямеччыне ў параўнаньні з прадваенными падняліся ў 149.531 раз. Кожны дзэнь прыносіць вялізарны ўзрост цэнаў. 7-га жніўня фунт хлеба каштаваў 41.000 мк., 8-га—80.000 мк., а 9-га—120.000 мк. і г. д. Фунт масла каштуе 1 мільён марак, трамвайны білет—20.000 мк.

